Іскры Ільіча

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ ЖНІВЕНЬ 1934 № 8



# ГЭТА НАШ КАЛГАСНЫ САД

Верш С. Шушкевіча
Малюнак З. Зальцмана

Вішні, яблыні і слівы,
Грушы, агрэст і парэчкі
На узгорку, каля рэчкі,
Дзе чаўны стаяць маўкліва,
За заслонаю прысад,—
Гэта наш калгасны сад.

У садку стаіць шалаш,
Днём і ноччу дзед Тамаш
Сад пільнуе, сцеражэ,
З ім руды сабака Джэк.
Сцёпку, Грышку, Маню, Веру
Клікне дзед пад грушу-бэру,
Сапяжанкамі частуе.
Пагаворыць, пажартуе.
Столькі дзіўных казак, баек
Дзед Тамаш апавядае!

Кружаць пчолы у галлі,
Іх тут сорак два вуллі.
Даглядае іх Гіляр—
Паважаны наш пчаляр.

Слівы, яблыні і вішні,
Грушы, агрэст і парэчкі
На узгорку, каля рэчкі,
Дзе бывае так зацішна,
За заслонаю прысад,—
Гэта наш калгасны сад.

Г. Андэрсен

# Брыдкае качанё





(Казка*)

Малюнкі К. Ґедда

Як хораша было за горадам улетку! Жыта жаўцела, авёс зелянеў, сена стаяла ў стагах на зялёных лугах.

Па лузе важна пахаджваў бусел на доўгіх чырвоных нагах. Ён нешта балбатаў па-свойму; іначай гаварыць ён не мог.

Кругом лугоў і палёў былі вялікія лясы. А ў тых лясах ляжалі глыбокія азёры. Сапраўды вельмі хораша было за горадам— у вёсцы!

Недалёка ад вёскі была глыбокая канава. На беразе гэтай канавы аж да самай вады рос вялікі-вялікі лопух. Ён быў такі высокі, што маленькія дзеці маглі стаяць пад лопухам на ўвесь рост. Там, сярод лопуха, было цёмна, як у густым лесе. І ў адным куточку сядзела качка на сваім гняздзе. Яна выседжвала качанят. Качцы вельмі надакучыла гэта работа: яна сядзела тут даўно і госці рэдка да яе заходзілі. Яе суседкі не любілі сядзець пад лістамі лопуха і гутарыць са сваёй сяброўкай. Ім лепей падабалася вада, дзе яны плавалі сабе ў волю.

Нарэшце, яйкі сталі лопацца адно за другім. „Піп-піп!“ пачулася з яек. Усе яечныя жаўткі ажылі і высунулі галоўкі.

— Рап-рап!—адказала качка.

Качаняткі павылазілі і сталі аглядацца кругом пад зялёным лістом. Маці дазволіла ім глядзець колькі хочацца, бо зялёны колер карысны для вачэй.

— Які-ж вялікі свет!—казалі качаняты.

Цяпер, вядома, ім было куды раскашней, чым у яйках!

— Вы думаеце, што гэта ўвесь свет?— сказала маці.—Не, ён цягнецца аж па той бок саду, далёка, да самага поля! Але там я і сама ніколі не была. Ну, вот вы і ўсе разам!—і яна паднялася.—Не, не ўсе, самае вялікае яйцо яшчэ ляжыць. Як-жа доўга яно не лопаецца! Мне гэта зусім не падабаецца!—і яна зноў села на яйцо.

— Ну, што чуваць?—запыталася старая качка, што прышла праведаць яе.

— Нешта вельмі доўга нічога не выходзіць вось з гэтага яйца,—адказала качка-наседка.—Але ты глянь толькі на другіх —

*) Скарочана.

якія дзіўныя, прыгожыя качаняткі! Мне рэдка даводзілася бачыць такіх. Усе яны падобны на свайго бацьку. Але ён, нягодны, нават не прыходзіць і наведаць мяне!

— А ну, пакажы-ж ты мне яйцо, якое не хоча выходзіць!—сказала старая качка.

— Можаш мне паверыць, гэта індычкіна яйцо! Мяне таксама раз абдурылі былі. Не мала я мела клопату з маімі дзеткамі, бо індыкі баяцца вады! Можаш мне паверыць, я проста не магла загнаць іх у ваду! І тупала, і крыллямі хлопала, але нічога не памагала!—Ну, пакажы-ж яйцо! О, ясна, гэта індычкіна. Кінь ты яго і вучы сваіх дзяцей плаваць!


*І вось прышлі яны на качачы двор.*

— Не, я лепей пасяджу крыху,—адказала качка.—Калі я ўжо гэтулькі сядзела, дык магу яшчэ трохі пасядзець!

Нарэшце, лопнула і вялікае яйцо. „Піп-піп!“ запішчала птушанё і вылезла з лушпавіны. Яно было вялікае і брыдкае. Качка глянула на яго ды сказала:

— Якое вялізнае качанятка! Ніводнае на яго не падобна. Ды яно, напэўна, і не індычанё. Хаця, мы гэта скора ўбачым, вось толькі да вады дай дабрацца.

* * *

На другі дзень была дзіўная пагода. Сонца ярка асвятляла шырокі лопух. Качка са ўсёю сваёю сям'ёю пайшла да канавы.

— Шлёп!—і яна скокнула ў ваду. „Рап-рап“,—прагаварыла яна і качаняты адно за другім паскакалі за ёй. Вада закрыла іх з галавой, але яны вельмі скора выплылі і так дзіўна пачалі плаваць. Ножкі іх трапяталіся ў вадзе самі. Нават брыдкае шэрае птушанё плавала разам з усімі.

— Не, гэта не індычынё,—казала качка.—Глядзіце, як добра перабірае ваду нагамі. Гэта маё роднае дзіця! Ды калі добра прыгледзіцца, дык яно нават і вельмі харошае. Рап-рап! Ну, хадзем са мною, я вас пакажу на каччыным двары. Але трымайцеся бліжэй каля мяне, каб ніхто на вас не наступіў. Апрача таго, сцеражыцеся кошкі.

І вось пайшлі яны на качачы двор. Там быў страшны гвалт. Дзве сям'і біліся між сабою за галоўку вугра. Але кошка выкарыстала гэту бойку, схапіла вугра ды з'ела.

— Так, добра жыць на белым свеце!—сказала маці качанят і аблізала языком дзюбу, бо ёй самой вельмі хацелася з'есці галоўку вугра.

— Ну, варушыце нагамі!—прагаварыла яна.—Глядзіце, прыгніцеся і пакланіцеся вунь той старой качцы, яна на гэтым двары самая важная асоба! Шаркайце ножкамі і не згінайце лапак,—вось так, глядзіце! Ну, цяпер схіліце галаву і скажыце:—рап!

Так качаняты і зрабілі. Але ўсе качкі з двара глядзелі і гаварылі моцна:

— Глядзіце, яшчэ адна сям'я прыйшла, нібыта нас тут мала! Фу! Якое гадкае гэта качанё, мы яго не можам цярпець!—і адна качка зараз-жа падляцела да качаняці і ўкусіла за патыліцу.

— Не чапай яго!—сказала маці,—яно нікому шкоды не зрабіла.

— Так, то так, але яно такое вялікае і дзіўнае!—адказала тая качка.—Яго трэба прагнаць.

— Харошыя дзеткі ў гэтай маткі!—сказала старая качка.—Апрача аднаго, якое не ўдалося! Я-б хацела, каб яно пахарашэла.

— Гэта немагчыма, мілая мая!—сказала маці.—Яно брыдкае, але так дык добрае, паслушное, а плавае не горш за другіх. Я нават сказала-б—лепш за другіх! Я думаю, што як вырасце, дык пахарашэе. Яно вельмі доўга праляжала ў яйцы, можа ад таго і пашкодзіла яму.

І яна ўшчыпнула качанё за патыліцу і пагладзіла па галоўцы.

— Потым-жа, гэта качар, — гаварыла маці,—і таму ён такі вялікі.

— А другія качаняткі вельмі мілыя!—сказала старая качка.—Ну, будзьце як дома, а калі вы знойдзеце галоўку вугра, прынясіце яе ка мне.

Яны сталі расхаджваць тут, як дома. Але беднае качанё, якое было вельмі брыдкім, з усіх бакоў дзяўблі, штурхалі. З яго смяяліся і качкі і куры.

— Яно залішне вялікае!—казалі ўсе.

А індык надзьмуўся, як мячык, падбег да качаняці, нарабіў крыку і галава ў яго страшна пачырванела. Гэты індык радзіўся са шпорамі на нагах і таму лічыў сябе на птушыным двары найважнейшай асобай.

Беднае качанё не ведала, дзе яму дзецца. З яго тут усе смяюцца.

Гэтак прайшоў першы дзень. Але з кожным днём станавілася ўсё горш. Усе праганялі беднае качанё. Нават браты і сёстры не любілі яго і часта гаварылі:

— Няхай-бы цябе лепш кошка з'ела, гадкі вырадак!

І маці казала:

— Сышоў-бы ты дзе-небудзь ад нас.

Качкі кусалі яго, куры дзяўблі, а дзяўчынка, што давала корм курам, піхнула яго нагой. Качанё пабегла па двары і пераляцела праз плот. Птушкі, што сядзелі ў кустах, спалохаліся і ўзняліся ўверх. „Гэта ад таго, што я такое брыдкае!“—падумала качанё і заплюшчыла вочы. Але зараз-жа пабегла зноў.

* * *

Пад вечар яно дабегла да невялікай хаткі. Гэта хатка была такая старэнькая, што не ведала, у які бок ёй упасці, і таму стаяла. Вецер так моцна дзьмуў, што качанё павінна было сесці на хвост, каб утрымацца на месцы. І тут качанё ўбачыла ў дзвярах вялікую шчыліну. Праз гэтую шчыліну можна было пралезці ў хату.

Так яно і зрабіла.

У хаце жыла бабка з сваім катом і курыцай. Ката звалі „Сынок“. Ён умеў спрытна выгінаць спіну і мурлыкаць, а часамі нават пускаў іскры, калі яго гладзілі супроць шэрсці. У курыцы былі маленькія нізкія ножкі і таму яе звалі „Кудах-кудах-каратышка“. Яна добра неслася, і бабка любіла яе, як роднае дзіця.



*Кот і курыца былі гаспадарамі ў хаце...*

Раніцай яны адразу-ж убачылі чужое качанё. Кот стаў мурлыкаць, а курыца кудахкаць.

— Што за ліха?—сказала бабка і стала прыглядацца. Але яна была слабая на вочы і качанё ёй здалося вялікай качкай, якая заблудзілася.

— Вось дык знаходка!—сказала яна.—Цяпер у мяне будуць каччыны яйкі, калі гэта толькі не качар. Але мы аб гэтым даведаемся.

І вось качанё было пакінута на спробу на тры тыдні. Але ніводнага яйца так і не знесла яно.

Кот быў за гаспадара ў хаце, а курыца трымала сябе як гаспадыня.



*Качанё ад страху кінулася ў даёнку з малаком...*

Яны заўсёды казалі: „мы і свет“, бо лічылі сябе палавінай свету і пры тым лепшай. Качанё не зусім з гэтым згаджалася, але курыца ніякіх спрэчак не дапускала.

— Можаш ты несці яйкі?—пыталася яна.— Не? Ну, дык не распускай язык! А кот запытаўся:

— А ты можаш выгінаць спіну, мурлыкаць і пускаць іскры? Не? Значыцца, ты не павінен пярэчыць, калі гавораць разумныя асобы!

Качанё пакрыўдзілася і зашылася ў цёмны куток. Яно пачало думаць аб тым, як добра было жыць на дварэ і яму вельмі захацелася паплаваць у вадзе. Яно нават не вытрымала і сказала аб гэтым курыцы.

— Што з табой?—запытала курыца.— Табе няма чаго рабіць, вось чаму і выдумляеш глупства. Нясі яйкі, або мурлыкай, і ўсё пройдзе!

— Гэта-ж так добра, калі плаваеш па вадзе!—сказала качанё.—Так прыемна даваць нурца да самага дна.

— Ну і выдумала-ж, няма чаго і казаць!— гаварыла курыца.—Ці не здурнела ты! Запытайся хоць у ката, ён самы разумны з усіх, каго я ведаю. Запытайся, любіць ён плаваць, або нурца даваць—пра сябе я ўжо не кажу! Запытайся, нарэшце, у нашай гаспадыні, разумней за якую няма нікога на свеце! Ці не думаеш ты, што ёй хочацца плаваць і ўлезці ў ваду з галавою?

— Ты мяне не разумееш!—не згаджалася качанё.

— Ну, ужо калі мы цябе не разумеем, дык хто-ж зразумее! Ты, ясна, ніколі не станеш разумнейшым за ката ці бабку, не кажучы ўжо пра мяне! Не выдумлівай чаго не трэба, дзіця маё, а лепш падзякуй за ўсё, што для цябе зрабілі. Я шчыра раю табе: пачні несці яйкі, або навучыся мурлыкаць ці пускаць іскры!

— Не, я лепей пайду па белым свеце,— сказала качанё.

— Калі ласка, трымаць не будзем,—адказала курыца.

І качанё пайшло адгэтуль. Яно плавала па вадзе, нурцавала, але ўсе іншыя птушкі ўцякалі ад яго.

* * *

І вось прышла восень. Лісцё ў лясах пажаўцела і пабурэла, яго падхватваў вецер, так што яно скакала ў паветры. Надышлі халады. Цяжкія хмары сыпалі град і снег, а на плоце стаяў воран і ад холаду крычаў: „Кра! Кра!“. Сапраўды можна было замерзнуць ад аднаго гэтага крыку. Беднаму качаняці крута прыйшлося!

Аднаго разу вечарам на захадзе сонца з кустоў выйшла чарада прыгожых вялікіх птушак. Качанё ніколі не бачыла такіх мілых птушак. У іх былі доўгія гібкія шыі, і ўсе яны былі белыя як снег. Гэта былі лебедзі. Яны неяк дзіўна закрычалі, узняліся і паляцелі ў вырай.

Качанё не сцярпела... Яно завярцелася ў вадзе колам, выцягнула да лебедзяў шыю і моцна закрычала, так што нават само спалохалася свайго голасу. Гэтыя дзіўныя птушкі вельмі зацікавілі яго. Качанё ніяк не магло іх забыць. Яны такія прыгожыя; качанё ніколі падобных не бачыла. Але яно не зайздросціла гэтым птушкам. Нават у думках не магло яно пажадаць сабе стаць такім

прыгожым. Яно было-б рада, каб хаця качкі не праганялі яго ад сябе.

А зіма была такая халодная, страшна халодная! Качаняці ўвесь час прыходзілася плаваць, каб хаця не замерзнуць. Кожную ноч палонка, дзе яно плавала, усё меншала і меншала. Мароз быў такі, што лёд на сажалцы страляў. Качаняці без перапынку прыходзілася варушыць нагамі, каб лёд не закаваў яго. Нарэшце яно аслабела, перастала варушыцца і моцна прымерзла да лёду.

Раніцай сюдою праходзіў селянін. Ён убачыў качанё, разбіў лёд, забраў яго і занёс дадому. Там качанё аджыло.

Дзеці хацелі пагуляць з ім, але качанё падумала, што яго хочуць пакрыўдзіць. Яно са страху кінулася ў даёнку з малаком, малако так і пырснула па хаце. Гаспадыня закрычала і замахала рукамі. Качанё кінулася ў міску з маслам, а потым у кадушку з мукой.

І якім-жа яно выйшла адтуль! Гаспадыня крычала і шпурнула ў яго венікам. Дзеці бегалі па хаце, лавілі качанё, смяяліся і крычалі. Добра, што дзверы былі адкрыты: яно паляцела ў кусты, села там на выпаўшы снег і замерла ад страху.

* * *

Многа прыйшлося перажыць бяды яму за гэту зіму. Яно ляжала ў балоце сярод чароту. А калі сонца зноў прыгрэла, заспявалі жаваранкі, прыйшла вясна!

І качанё раптам падняло свае крыллі. Крыллі зашумелі мацней, чым калі-б там ні было. І адразу паднялі яго з месца.

Неўзабаве качанё пры ляцела ў вялікі сад, дзе яблыні былі асыпаны цветам, і дзіўна пахла ад бэзу. О, як там было хораша! З гэтых кустоў выйшлі тры прыгожыя лебедзі. Яны распусцілі свае пер'і і лёгка паплылі па вадзе. Качанё пазнала гэтых прыгожых птушак. Яму вельмі хацелася паляцець да іх. „Няхай хоць задзяўбуць мяне, а палячу да іх",—парашыла качанё.

Яно спусцілася ў ваду і паплыло да прыгожых лебедзяў. Тыя ўбачылі качанё, кінуліся плысці да яго, распусціўшы крыллі.

— Няхай будзе, што будзе,—прагаварыла бедная птушка, апусціўшы галаву на ваду. І што-ж яна ўбачыла ў чыстай вадзе? Яна ўбачыла ў вадзе сябе самую. Але гэта ўжо была не мешкаватая брыдкая шэрая птушка,—гэта быў лебедзь! Прыгожы, малады лебедзь.

Другія лебедзі плавалі вакол яго і гладзілі яго дзюбамі.

У сад прыбегла некалькі маленькіх дзяцей. Яны сталі кідаць у ваду хлеб і зярняты. Самы меншы з іх крыкнуў:

— А вось і новы!

І другія дзеці радаваліся разам з ім:

— Ды тут з'явіўся новы!

Яны хлопалі рукамі ў ладкі і скакалі, клікалі бацькоў, кідалі ў ваду хлеб і гаварылі:

— Новы—прыгажэй за ўсіх! Які ён малады, які харошы!

І старыя лебедзі з павагай глядзелі на яго.

Лебедзь адчуваў сябе зусім шчаслівым і завярнуў галаву назад пад крыло, сам не ведаючы чаму. Ён вельмі быў шчаслівы. Але ён не заганарыўся. Лебедзь думаў аб тым, як з яго здзекаваліся, а зараз усе кажуць, што ён прыгажэй за ўсіх птушак.

І бэз схіляў галінкі проста да яго ў ваду. Сонца ласкава і цёпла грэла. Лебедзь распусціў пер'і, гібкая шыя паднялася, і з яго грудзей вырваўся радасны крык:

— Аб такім шчасці я не сніў, калі быў брыдкім качанём.



# МАЛАДЫЯ ЎДАРНІКІ АБАРОНЫ

**Ад 29 ліпеня да 2 жніўня ў г. Менску адбываўся Ўсебеларускі злёт юных ударнікаў абароны. 400 лепшых ударнікаў вучобы, лепшых ударнікаў абароны прыязджала на злёт з розных раёнаў Совецкай Беларусі.**

**Тыя злётаўцы, што займаюцца ў авіяцыйных, аўтамабільных, планерных гуртках, прывозілі з сабою мадэлі, каб паказаць вынікі сваёй работы.**

**Лепшыя стралкі, сувязісты, санітары паказалі сваю гатоўнасць да абароны краіны Советаў. Яны паказалі, што ўмеюць добра цэліцца па ворагах, умеюць скоранька і добра перавязваць раны, перадаваць загады па тэлефону.**

**У час злёта Менскаму аэраклубу перададзен самалёт „Піонер Беларусі". Самалёт гэты пабудаван на сродкі, сабраныя піонерамі і вучнямі Совецкай Беларусі. Першымі на самалёце лёталі чатыры лепшых злётаўцы-піонеры.**

**У гэтым нумары мы друкуем пра Янку Пяшчынскага і Абрашу Угорэца—лепшых злётаўцаў.**

## ЯНКА ПЕРАМОЖЦА

Маленькі **Янка Пяшчынскі** часта наглядаў, як па вуліцах імчаліся аўтамабілі. Аднаго разу аўтамабіль спыніўся каля іх дому, Янка выбег з хаты на вуліцу і пачаў мацаць рукамі колы, пільна ўглядацца як шофер праўляў нешта ў маторы. Потым спытаў:

— Дзядзя, як гэта бегае машына?

— Рана табе ведаць, падрасці яшчэ, — адказаў шофер.

Янка падрастаў... А думка аб аўтамабілі не выходзіла з галавы. Аўтамабілі цікавілі яго.

Як мінула Янку 12 год, ён зайшоў у Бабруйскую дзіцячую тэхнічную станцыю. Зайшоў і моўчкі стаў на парозе.

— Чаго ты хочаш, хлопчык?—запыталі ў яго.

Янка трохі памаўчаў, а потым нясмела адказаў:


*Янка Пяшчынскі на сваёй мадэлі аўтамабіля.*

— Хачу будаваць аўтамабілі.

— Ого, адразу аўтамабілі, — пажартаваў інструктар.—Ты можа хочаш мадэлі аўтамабіляў рабіць?

— Але, мадэлі,—папраўіўся ён.

— Ну, дык прыходзь к нам і будзеш вучыцца.

.. Другі год наведвае Янка дзіцячую тэхнічную станцыю. За гэты час ён, пад кіраўніцтвам інструктара, пабудаваў дзве педальныя мадэлі аўтамабіляў: легкавую і грузавую.

— Спачатку дрэнна выходзіла, а цяпер нішто,— расказвае Янка аб сваёй рабоце.

На злёт Янка прыехаў з мадэллю легкавога аўтамабіля. Ён прыехаў спаборнічаць з рэбятамі-аўта-

мабілістамі, прыехаў паказаць сваё майстэрства.

Два разы спаборнічалі аўтамабілісты — ударнікі злёта абароны, і абодва разы Янка Пяшчынскі заняў другое месца. Першы раз ён на сваёй педальнай машыне праехаў 100 метраў за 32 секунды. А другі раз—250 метраў за 1 мінуту і 43 секунды.



*Лепшы злётавец—юны варашылаўскі стралок* **Ізя Кантар.**

Радасцю гарэлі Янкавы вочы. Упартая вучоба прынесла яму перамогу. Задаволены ён паехаў дахаты, каб яшчэ лепей вучыцца ў школе, у гуртку. Янка хоча вывучыцца на інжынера, каб будаваць сапраўдныя аўтамабілі.

**Я. Гаварушка.**

# АБРАША БУДЗЕ ІНЖЫНЕРАМ

Цяпер **Абрашу Угорэцу** 10 год. Вучыўся ён ў 20 ФЗС у г. Віцебску. Навучальны год скончыў на „вельмі добра" і „добра", і яго перавялі ў 3-ці клас.

Вольны ад вурокаў час Абраша праводзіць на дзіцячай тэхнічнай станцыі. Тут кожны піонер, окцябронак можа заняцца майстраваннем, вынаходніцтвам таго, што яму падабаецца, што яго цікавіць. Ён можа рабіць мадэлі аўтамабіляў, самалётаў, планераў.

Першы раз на дзіцячую тэхнічную станцыю Абраша трапіў летась зімою. Было гэта так: Абраша сядзеў дома за сталом і рыхтаваў вурокі, а яго старэйшая сястра Соня ўвайшла і кажа:

— Абраша, хочаш займацца ў авіямадэльным гуртку?

— А што там робяць?— спытаў ён.

— Мадэлі самалётаў. А як вырасцем ды вывучымся, станем будаваць сапраўдныя самалёты.



*Злётавец* Абраша Угорэц.

— Хадзем, хадзем!—узрадваўся Абраша. Да гэтага ён не раз глядзеў на лятаючыя ў паветры самалёты і зайздросціў тым, хто вольна кружыць у блакітным прасторы.

Ветліва сустрэлі на дзіцячай тэхнічнай станцыі Абрашу, у гурток запісалі і ён пачаў хадзіць на заняткі.

За час навучання ў авіямадэльным гуртку Абраша зрабіў пяць мадэляў. Апошнюю, пятую мадэль — фюзеляжную, рэкорднага тыпа—ён прывёз з сабою на злёт юных ударнікаў абароны.

Кім-жа хоча быць Абраша?

— На каго вывучуся, я яшчэ не ведаю,— гаворыць ён.—Але абавязкова буду або лётчыкам, або тэхнікам, або інжынерам, бо надта-ж я люблю самалёты.

І Абраша будзе інжынерам, бо ён добра вучыцца і ў школе, і ў гуртку, дзе робяць мадэлі самалётаў.

**П. А.**

Якуб Колас

# Рагатка

Малюнкі В. Тіхановіча



I

Задумаў Міхась наш рагатку набыць.
Ён сам яе мог-бы зрабіць,
Ды вось бяда, непаладкі:
Рэзінкі няма для рагаткі,
Няма шырпатрэбы
Для важнай вучэбы,
Для практыкі рознай, стральбы—
Не забывайце пра войны!—
Ён паказаў-бы вам нумар любы,
Будзьце спакойны!
О, каб рагатка была!
Ляцеў-бы каменчык, страла,
Ляцелі-б далёка,
Высока—
Пад самыя хмары!
Што значыць Міхалку
Падбіць, скажам, галку,
Варон са дзве пары!
Ды што яму—птушку?
Ваўка пасадзіў-бы на мушку!
Вось толькі-б рэзінку,
Браточкі мае,
Вось толькі-б яе!
Рэзінкі-ж няма і на рынку.

II

Пытаўся Міхась у суседзяў,
Распытываў Васек і Федзяў,
Меў гутарку з Інкай,
Захоплены гэтай рэзінкай.
Рэзінкі-ж няма і няма.
Не раз уздыхнуў ён—эх, ма!
Нарэшце тут Гомік памог,
Міхасеў сусед.
Навёў ён Міхася на след—
Схадзіць у аптэку на рог:
Хады дзве хвілінкі,
І там запытацца рэзінкі.
Гомік—малайчына!
Больш такіх галоў!
Ёсць там, ёсць рэзіна!
Ёсць, каб я здароў!
Справа за грашыма.
Эх, загнаць капейку
На рэзінку тую,
На яе, зладзейку!
Дабываць прышлося
Грошы неўзаметкі...
Спачуваю вам я,
Мілыя вы дзеткі!
Збіралі па грыўні,
Капеек па пяць.
І цётка і дзядзька
Ім мусілі даць.

III

У Міхася капітал
Не вялік ён і не мал:
Пяцьдзесят капеек!
І ў аптэку з сябруком
Па абедзе вечарком
Выбраліся неяк.
І нікому ні гу-гу!
Ідуць весела ў нагу
Фізкультурным
крокам.
І не зганіць іх ніхто:
На трамвай і на аўто
Кінуць зоркім вокам.

На мост нашы хлопцы ўзышлі,
Ідуць тратуарам,
Аддаўшыся марам,
тут... Вось тут зевака і далі!
Не агледзіўся Міхась
Як малыш да яго—шась!
Запыніў на мосце.
Паліняллы яго нос,
Вочы поўныя пагроз
Лютасці і злосці.
Вось пацан,
Хуліган,
Вулічны выжыга!
Да Міхася:
— Землячок!
Дай пятачок!
Чуеш?.. мігам!
Спыніліся нашы дружакі—
Страхоцце!
Населі на іх забіякі
У лахмоцці.
Лютыя, злыя,
Ссунуўшы бровы,
Хоць і малыя,
А выгляд суровы.
Лезуць сляпіцай,
Грозячы фінкай.



Як адчапіцца?
І як быць з рэзінкай?
Крыкні—яшчэ будзе горай—
Фінкаю бок ім прапора.
А людзям неўзнакі,
Не бачаць бяды той,
Што на дружакаў
Напалі „бандыты“.
Павёў наш Міхась перамовы
І кажа грабежнікам так:
„А дайце нам чэснае слова
Што не возьмеце больш як пятак!“
Гаворыць Міхаська, а голас
дрыжыць,
І слёзка на вочы бяжыць.
А той падшывалец
Пусціў у ход палец,
Залезшы Міхасю ў кішэню.
Прапалі надзейкі:
Усё да капейкі
Зграбастаў нягоднік
у жменю.
Эх, Гомік, мой братка!
Прапала рэзінка, рагатка!
Плакаў Міхась з гора,
Гомік спачуваў,
Ды дзіцячая гора
Адыходзіць скора
І Міхась не доўга
Плакаў, гараваў.
І ўжо каля дому
Ён сказаў сурова:
— Гомік! Ты-ж нікому
Ані-ні, ні слова!—
А дома ў зацішку
Сядзелі хлапчышкі,
Ламалі галовы над планам,
Якую адплату
Прыдумаць праклятым
Грабежнікам тым, хуліганам.
Папросяць, вот, Мішку
Асілка—хлапчышку—
Палічыць нягоднікам косці!
У думках, у марах
Аб помсце, аб карах
Спагналі яны свае злосці.

А рагатка тая—
Рэч, сказаць, пустая.



П. ЗАМОЙСКІ

# РАСПРАВА

(АПАВЯДАННЕ ДЗЕДА).

Малюнкі А. Волкава.



„Даўно гэта было, так даўно, што і не прыпомніць. Вашы бацькі тады па вуліцы ў коні гулялі. У гэтым самым панскім двара, дзе цяпер комуна, жыў князь. Люты быў чалавек князь. Мы былі пад яго ўладай і ён рабіў з намі, што хацеў. Колькі народу пакалечыў, закатаваў на смерць, затравіў сабакамі. Многа паўцякала ў лясы. Адтуль яны нападалі на панскія двары, на паноў.

Працавалі мы на князя па 6 дзён у тыдзень. За нашу працу ён балы спраўляў, піў і гуляў. Гэтак усе памешчыкі жылі: зямля была ў іх руках, а працавалі прыгонныя.

Усе-ж расправы праводзіў бурмістр. Вы цяпер і слова такога не чулі, — гэта самы галоўны служка панскі быў.

Бывала, за самую маленькую правіннасць загадваў пан бурмістру забіраць людзей на стайню і секчы бізунамі, лазой. А было і гэтак: запрэ чалавека, загадвае карміць селядцамі, а перад кратамі, каб не дастаў, вады паставіць, а піць яе не дае. Іншых заморваў голадам, прывешваў да слупа... На галаву халодную ваду лілі, гарачы пясок сыпалі.

Дрыжалі ўсе сяляне ад гэтай лютасці, кожная сям'я з жахам чакала, ці не кране яе цяжкая княжацкая рука. Прайшоў час, і нашу сям'ю яна кранула. Ды як кранула!

Прыйшоў увосень загад набіраць рэкрутаў, цару салдат пасылаць.

Панская воля была аддаваць у салдаты. А служыць у салдатах трэба было 25 год! І колькі людзей на службе забівалі, калечылі! У салдаты выпраўлялі ўсё роўна як у магілу.

Паклікаў князь бурмістра.

— Каго ў салдаты аддаваць?

А бурмістр сваю ўладу паказвае. Хто яму не да густу, хто супроць яго слоўца сказаць адважыцца,—чакай бяды: з'есць.

Ён мяне цярпець не мог, хлопец я смелы быў, праўду - матку ў вочы рэзаў.

Вось ён і ўказаў на нашу сям'ю; пра мяне князю распісаў.

— Трэба, кажа, з Сергунькіных пачынаць.

Прыйшлі па мяне, уся сям'я ў лямант, у крык...

Я ім кажу:

— Нічога, калі выпала, паслужу!

Прыйшоў я, прыйшлі і другія. Некаторыя дрыжаць, а я хоць-бы што.

Князь агледзіў, загадаў павярнуцца, усіх адправіў, пакінуў мяне аднаго. Тут я трохі спалохаўся.

— Ты Пётра Сергунькін?

— Я,—а сам кланяюся яму.

Памаўчаў князь. Паглядзеў у вочы. Да бурмістра:

— Ён?

— Ён самы.

— „Пра што гэта?"—думаю я.

— Ты што на мяне гаворыш?

— Што і ўвесь народ, — адказваю.

— Якія мыслі пускаеш?

— Свае мыслі пры сабе трымаю, чужыя—слухаю.

— Востры, браце, на язык.

— Ужо які ёсць,—кажу.

— На мяне што падбухторваеш?

— Гэта вам бурмістр па злосці нагаварыў...

— Дык ты гэтак? Я ведаю, ты і пра духавенства вярзеш, і гаворыш, каб сяляне на мяне не працавалі?!

— Духавенства, кажу, у нас у разлік не прымаецца, а патрэбна для звычаю. Працуем на вас 6 дзён. Начамі для сябе працуем.

— Шу-устры. Шу-устры ты...

Бачу ў князя шчокі наліліся, вочы забегалі. Ну, дрэнна будзе. Бух у ногі:



— Не карай, злітуйся. Нічога не было! Усё гэта бурмістр нагаварыў. А нагаварыў ён сам ведаеш з-за чаго: сястрыцу маю за сябе хацелася ўзяць, а ваша воля была выдаць за другога.

Бурмістр выгнуўся і ласкава да мяне:

— Ты, Пётра, прызнайся лепш! Лягчэй будзе!

— Перастань ты лепей князя дурыць,—выгукнуў я ды тут-жа і апамятаўся, што дрэнна сказаў.

Усміхнуўся бурмістр.

Што далей было, не памятаю. Нібы апаліла штосьці па шчацэ. Скрозь туман бачу, як смяецца бурмістр, як збіраецца народ, як князь, увесь потны, стаіць нада мною і б'е мяне, дзе папала.

Усхапіўся я, зрабіўся як вар'ят, убачыў навакол сябе людзей і закрычаў:

— Бра-атцы, за што-о?!

Увесь народ уздрыгануўся, застагнаў. А князь стаіць перада мною, увесь як у агні. Стаю і я разгневаны. Князь здаравенны, а я яшчэ здаравейшы. Глядзелі, глядзелі адзін на аднаго, я яму і кажу проста ў вочы:



— Ну, звер, крывапіец, бі! Бі да смерці!

— Людзі, узяць яго! — закрычаў князь.

А ў вёсцы ўжо даведаліся. Адтуль бег яшчэ народ. Калі мяне вязаць пачалі, прыбегла маці і браты. Маці князю ў ногі — моліць, просіць. Уся радня за ёю ў ногі. Цалуюць гаду-князю вопратку, а ён яшчэ горш кіпіць ад злосці. Бачу, як бізун гэты праклятый захадзіў і па радні. Маці ў мяне была худзенькая, шчупленькая. Вырвалася ў конюха, а той яе зноў за валасы. Зноў вырвалася. Я вырываюся, крычу. Трымаюць мяне. Маці ляжыць, стогне.

Не вытрываў я, ірвануўся што меў сілы. Усе вяроўкі разарваў. Хацеў накінуцца на князя, а на мяне гэтым часам уся дворня насела. Бачу, справа дрэнная. Князь падскочыў ка мне, хацеў ударыць ручкай бізуна па галаве. Раптам, гляджу, маці кінулася на князя, ды з усяе сілы па шчацэ яму. Забурліў увесь народ, кінуўся на князя, на яго памочнікаў-катаў, на служак панскіх, звязалі іх усіх і пацягнулі к рэчцы. Там ім усім капут зрабілі!"

Так скончыў дзед сваё апавяданне пра мінулае.

# ЮНЫЯ ГЕРОІ

Малюнкі В. Тіхановіча

## НА ВАРЦЕ ДА АПОШНЯЙ МІНУТЫ

**Жорж Сасноўскі** канчаў вясковую чатырохгодку ў калгасе імя Войкава, Лельчыцкага раёна. Ён быў лепшым у атрадзе піонерам і лепшым у школе вучнем, старшынёй вучкома. Разам з гэтым зімой ён быў актыўным шэфам калгасных цялят.



— Бывала,—расказвае пра яго старшыня калгаса,—як толькі бяжыць са школы, ніколі не міне калгаснага хлява. Любіў ён цялят, памагаў даглядаць іх.

Вясной цялят сталі пасвіць. Пасвіў дарослы пастух-калгаснік. Але пастух ён быў дрэнны: цяляты не папраўляліся.

Калі скончыў школу, яму даручылі гэтую ганаровую і адказную справу—пасвіць цялят. Жорж згадзіўся і даў чэснае піонерскае слова быць добрым сумленным пастухом.

Праз некалькі дзён цяляты заметна сталі папраўляцца. Радавалася праўленне калгаса—Жорж апраўдаў іх надзеі. Вясёлы і здаволены быў і сам Жорж: ён палюбіў сваю новую работу.

Вечарам 29 мая пастушок Жорж гнаў цялят дахаты з лесу. У чарадзе была і бацькава карова з цёлкай. У гэты час ён заўважыў двух незнаёмых людзей, якія туляліся за дрэвамі, падкрадаліся да цялят. Жорж зразумеў, што гэта не звычайныя падарожнікі, а зладзеі. Ён подбегам пусціўся з цялятамі ўдоўж дарогі, каб хутчэй выгнаць з лесу.

Зладзеі пачалі даганяць. Але Жорж не здаваўся. Тады адзін з зладзеяў злавіў Жоржа, схапіў яго, адвёў у лес і там зверскі забіў... Другі ў гэты час заняў карову і двое цялят.

Праз некалькі дзён бандыты-зладзеі былі злоўлены. На судзе адзін з іх, кулак Андрусовіч, сказаў: „Забіў Жоржа таму, што быў добры пастушок і жывым усёроўна не здаўся-б“.

Сваё чэснае піонерскае слова Жорж выканаў. Ён да апошняй хвіліны цвёрда стаяў на варце калгаснага маладняка.

## ПОЕЗД ВЫРАТАВАНЫ

**Расціслаў Слава** ішоў са школы чыгуначным шляхам. Школа змяшчалася на станцыі. Гэтай дарогай хадзіў ён кожны дзень.

Раптам Слава спатыкнуўся і моцна стукнуўся нагою аб рэльсу. Нага забалела. Слава паглядзеў уніз і ўбачыў: на светлай сталёвай рэльсе была цёмная дзірка—разрыў. Рэльса лопнула! Гэта ясна. І ў тую-ж хвіліну Слава пачуў, што рэльсы загудзелі: значыць ідзе поезд...

Доўга не разважаючы, піонер Слава кінуўся да старажавой будкі. Схапіў ліхтар і памчаўся назад. На хаду чыркаў запалкі, стараючыся запаліць ліхтар. Але... у ліхтары

не было газы. А поезд вось-вось наляціць. Слава ўявіў сабе, як поезд з усяго разгону налятае на лопнуўшую рэльсу... З грукатам падаюць пад адкос вагоны, нема крычаць пакалечаныя людзі...

Што-ж рабіць? Як выратаваць?

І раптам — выхад ёсць! Слава дастае з кішэні газету і запальвае. Поезд імчыцца проста на яго. Вось ён блізка. І тады Слава паднімае высока над галавой газету. Газета гарыць яркім полымем. Полымя калышацца ад ветру, узвіваецца ўверх, апякае руку... Аднак Слава не чуе болі.



Машыніст убачыў піонера зусім блізка, і за два метры ад лопнуўшай рэльсы поезд спыніўся.

## ШАЙКА ЗЛАДЗЕЯЎ ВЫКРЫТА

**Міхась Чачкоўскі** бачыў, як некалькі падвод везла цукар на фабрыку „Чырвоны Харчавік" (г. Бабруйск). Дарога была роўная, прамая. Але чамусьці падводы раптам завярнулі ў бок да невялікага завулка. „Што-б гэта значыла? Няўжо бакавая дарога карацейшая?"—разважаў ён. І піонер Міхась парашыў праверыць. Асцярожна, цішком пайшоў за падводамі.

Каля аднаго дома падводы спыніліся. Да іх падышла жанчына з мяшком у руках. Адзін падводчык распароў мяшок цукру і стаў адсыпаць з яго ў мяшок жанчыны.

— Крадуць! Наш цукар!—ледзве не закрычаў на ўсю вуліцу Міхась. Але вытрымаў. Асцярожна праскочыў на другую вуліцу і паімчаўся на фабрыку.

— Куды, малыш?—затрымаў яго міліцыянер пры ўваходзе.

— К дырэктару я!—засопшыся, адказаў Міхась.

— Цяпер-жа, ці можа пачакаеш?—усміхаўся міліцыянер.

— Ды скарэй вы! А то ўсё ўкрадуць!

Міліцыянер адразу змяніў тон гаворкі:

— Ну, ну, валяй, брат, хутчэй!

Міхась расказаў аб усім дырэктару.

Шайка зладзеяў была арыштавана.



# Прыгоды Ката

Казка А. Зіміонкі
Малюнкі А. Волкава

## ПРЫГОДА ПЕРШАЯ

1

Сядзіць Рудзік пад кустом,
Халадок глытае
І здаволена хвастом
Па пяску віляе.

Кончык жвавага хваста
Туды-сюды скача...
Кот як глянуў з-за куста:
— „Мышка—не іначай!"

Навастрыўшы кіпцюрок
І падпоўзшы крышку,
Ён на мышку тую—скок!
Ажно тая мышка

Як забрэша—гаў-гаў-гаў!
У ката трубою
Хвост са страху ўгору стаў,
А спіна—дугою.

Ай-яй-яй! Куды-ж цяпер?
Паглядзіце самі:
Перад носам страшны звер
Ляскае зубамі.

З ім кату не ваяваць—
Разарве на часці!
Лепш адразу уцякаць
Ад ліхой напасці!

2

Кот падумаў, і дугой
Хвост загнуўшы ззаду,
Цераз цюцьку—і стралой
Лататы па саду!

Але дзе там? Наўздагон—
Цюцькі не марудзяць!
Паляцеў, як ветрагон,
Азвярэлы Рудзік.



Ах ты, бедны коцік
мой!
Не ўцячэш ты,
мусіць?
Вораг блізка... Ой-ой-ой!
Зараз хвост адкусіць!

3

Ажно маху кот не даў:
Па дарозе—бочка.
Ён у бочку—і прапаў,
Як у сене скочка!

Але ў бочцы дзёгаць быў—
Запякло у роце.
Кот запырхаў і паплыў,
Як карась ў балоце!

Каб не тыя кіпцюры,
Ён-бы утапіўся,
Але неяк угары
Крыху зачапіўся.

4

Вось праз шчолку глянуў кот:
Бачыць ён жанчыну—
Цягне, бедная, на плот
Мокрую пярыну.

А ў пярыне той дзіра
З добрыя варота...
Аж замяўкаў кот—ура!
І хутчэй з балота

Калі скокне: вер—-не вер!
Бабка не пазнала:
—Ай-яй-яй! Ратуйце! Звер!—
І у хату драла.

Кот-жа ў дзірку зразу—
чмых!
І сядзеў да ночы,
Покуль Рудзік не заціх
І не сплюшчыў вочы...

(*Працяг будзе*).



# ПАРАШУТ

Над шырокім полем, у сінім небе, гудзе самалёт. Кружыцца ён — выбірае добрае месца, дзе можна было-б высадзіць свайго пасажыра. Раптам ад самалёта аддзялілася чорная кропка. Яна ляціць уніз, і з кожнай секундай становіцца большай і большай.



Праходзіць яшчэ момант і каля чорнай кропкі вырастае белы парасон. Гэта чалавек апускаецца на парашуце.

Зроблен парашут з вялікага круглага кавалка моцнай шоўкавай матэрыі. Чалавек прывязан да гэтай матэрыі моцнымі вяроўкамі.

Прыгаць з парашутам вельмі трудна, і гэта могуць рабіць толькі смелыя дарослыя людзі.

Чаму людзі хочуць аўладаць парашутнай справай, нашто ім патрэбна гэта?

А вось нашто: падняўся, скажам, самалёт угору і раптам яго матор перастаў працаваць, або сапсавалася яшчэ што-небудзь. Самалёт бездапаможна ляціць уніз. Што-ж рабіць пасажырам? Ляцець на папсаваным самалёце—гэта значыць загінуць. І тут людзей выратоўвае парашут.

Найлепшым парашутыстам з'яўляецца інструктар парашутнае справы, савецкі лётчык **Мікалай Еўдакімаў**. Ён за тры гады зрабіў каля ста прыжкоў з парашута.

Апошні прыжок Мікалай Еўдакімаў зрабіў 16 ліпеня ў гэтым годзе. Ён падняўся на самалёце на вышыню 8 кілометраў і 100 метраў і выпрыгнуў адтуль з парашутам.

7 кілометраў і 900 метраў тав. Еўдакімаў ляцеў не раскрываючы парашута і праляцеў гэту адлегласць за 2 мінуты і 22 секунды.

Недалятаючы да зямлі 200 метраў, Мікалай Еўдакімаў раскрыў парашут і так апусціўся на зямлю.

Праз 4 пласты хмар праляцеў парашутыст Еўдакімаў, пакуль даляцеў да зямлі. Ніводзін парашутыст буржуазных краін не апускаўся яшчэ з такой вышыні. Першае месца заваяваў Савецкі Саюз.

Цана 30 кап.



# ПАДУМАЙ



## ЯКІЯ ГЭТА РЫБЫ?



Ці ведаеце вы, якія рыбы намалёваны на гэтым рысунку? Паглядзіце добра. Калі не ведаеце самі, дык спытайце ў сваіх бацькоў, або ў старэйшых братоў.



Неадымаючы карандаша ад паперы нарысуйце гэты малюнак.

## ДЗЕ СХАВАЎСЯ АРОЛ?



Знайдзіце на гэтым малюнку арла, які схаваўся ад паляўнічага.

## ЦІ КРЫВЫЯ Ў ІХ НОГІ?



Перад вамі дзве фігуры. У абедзвюх крывыя, на першы погляд, ногі. Але, калі памераць іх лінейкаю, або паглядзець удоўж—ногі роўныя. Гэта адзін з прыкладаў памылкі зроку.



ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“. Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1116. 3450 экз. Менгарліт № 5231.